Кахаnоўскі, А. Г. [Рэцэнзія] / А. Г. Кахаnоўскі // Российские и славянские исследования: науч. сб. Вып. 6 / редкол.: А. П. Сальков, О. А. Яновский (отв. редакторы) [и др.]. — Минск БГУ, 2011. — С. 320 – 321. — На шляху станаўлення беларускай нацыі: гістарыяграфічныя здабыткі і праблемы / навук. рэд. В. В. Яноўская. Мінск, 2011.

**НА ШЛЯХУ СТАНАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАЙ НАЦЫІ: гістарыяграфічныя здабыткі і праблемы /** навук. рэд. В. В. Яноўская; Нац. акад. навук Беларусі, Ін-т гісторыі. Мінск : Беларус. навука, 2011. 311 с.

У апошнія дзесяцігоддзі гістарычная навука Беларусі імкліва развівалася. Вельмі разнастайнай стала тэматыка даследаванняў, больш дасканалымі макра- і мікрападыходы, даследчыцкія прыёмы. Часам нават прафесіяналу вельмі складана сярод мноства артыкулаў, манаграфій, дысертацыйных прац, краязнаўчых і навукова-папулярных работ, зборнікаў дакументаў і матэрыялаў канферэнцый акрэсліць межы назапашанага гісторыкамі.

Звяртаючыся да аналізу той ці іншай праблемы, нярэдка з горыччу адзначаеш, як дарэчы была б новая абагульняючая манаграфія ці гістарыяграфічны агляд у гэтым напрамку. Яны вельмі карысныя і для шырокага кола чытачоў, і для спецыялістаў, адкрываючы для апошніх пэўныя далягляды далейшага вывучэння. У гэтай сувязі выхад у свет калектыўнай манаграфіі «На шляху станаўлення беларускай нацыі: гістарыяграфічныя здабыткі і праблемы», падрыхтаванай групай супрацоўнікаў Інстытута гісторыі НАН Беларусі пад кіраўніцтвам В. В. Яноўскай, стала падзеяй для ўсіх тых, хто цікавіцца гісторыяй Беларусі.

Разглядаемае навуковае выданне ахоплівае аналіз гістарыяграфічных здабыткаў і праблем па шырокаму колу пытанняў, звязаных з нацыятворчымі працэсамі на тэрыторыі Беларусі, праблемай станаўлення беларускай нацыі ў канцы XVIII — пачатку XX ст. Першы раздзел манаграфіі, падрыхтаваны М. А. Сакаловай, прысвечаны разгляду агульных метадалагічных падыходаў да даследавання гісторыі нацыі і нацыянальнай дзяржавы. Асобная ўвага нададзена характарыстыцы эвалюцыі зместу паняццяў «нацыя», «нацыянальнасць» і «нацыянальны суверэнітэт», прадстаўленых у працах шэрагу даследчыкаў на розных гістарычных этапах. Абсалютна слушна ў падраздзеле, прысвечаным разгляду метадалагічных падыходаў да даследавання нацыянальнай дзяржавы, ставіцца пытанне аб тым, што стварэнне ў XIX — пачатку XX ст. «...адміністратыўнай інфраструктуры, ускладненне палітычнага жыцця, пашырэнне пісьменнасці і фарміраванне кола асоб, якія ў адной тэарэтычнай традыцыі пазначаюцца як "нацыянальная эліта", а ў другой — як "этнічныя прадпрымальнікі" і шэраг іншых фактараў, стварадзі падмурак беларускай дзяржаўнасці» (с. 47). Даволі цікава і правамерна аўтар ставіць пытанне аб неабходнасці з улікам сучасных тэарэтычных падыходаў пераасэнсавання звыклых пастулатаў аб шляхах станаўлення беларускай нацыянальнай дзяржаўнасці, у тым ліку аб «запозненым» яго характары (с. 48).

У самым буйным, другім раздзеле кнігі «Нацыятворчыя працэсы ў Беларусі: гістарыяграфічныя парадыгмы і навуковыя школы», напісаным Н. В. Анофранка, А. М. Філатавай, В. В. Яноўскай, знайшлі адлюстраванне многія пытанні, якія мелі нярэдка ўскосную распрацоўку ў сучаснай беларускай даследчыцкай літаратуры. Дэталізавана прааналізавана вызначэнне гісторыкамі паняццяў «тэрыторыя», «этнічная тэрыторыя», «мяжа», «рэгіён» у адносінах да беларускага кантэксту. Асаблівы акцэнт быў зроблены на разгляд розных падыходаў па пытанні тэрытарыяльнай лакалізацыі этнічных меж Беларусі, прадстаўленых у працах даследчыкаў XIX—XX стст.

Асобныя падраздзелы прысвечаны характарыстыцы гістарыяграфічнага аналізу праектаў стварэння ці аднаўлення дзяржаўных утварэнняў на тэрыторыі беларускіх і літоўскіх губерняў у XIX ст., усталявання заходняй мяжы Расійскай імперыі, месца беларускіх зямель у яе рэгіянальным дзяленні. Паралельна аўтары абсалютна апраўдана звяртаюць увагу на адлюстраванне ў гістарычнай літаратуры ўплыву геапалітычнага фактару на фарміраванне этнічных працэсаў на тэрыторыі Беларусі. Чытаючы манаграфію, міжволі заўважаеш нярэдкую няўвагу айчынных даследчыкаў да тэрміналагіч-

най дакладнасці побач з пошукам і выкарыстаннем новых метадалагічных прыёмаў, што выразна праступае пры параўнальным гістарыяграфічным аналізе.

Сцісла, але дастаткова рэпрэзентатыўна прадстаўлены ў асобным раздзеле гістарыяграфічныя вызначэнні тэрмінаў «русіфікацыя», «абрусенне», «паланізацыя», а таксама прычыны і фактары русіфікатарскай палітыкі, асноўныя канцэптуальныя падыходы да часу яе станаўлення і этапаў развіцця. Не абмінулі аўтары раздзела сваёй ўвагай характарыстыку паглядаў айчынных і замежных даследчыкаў па дыскусійных пытаннях аб сутнасці і шляхах ажыццяўлення палітыкі русіфікацыі, далі сістэматызаваны аналіз канцэптуальных падыходаў даследавання працэсаў паланізацыі на тэрыторыі Беларусі, месца і ролі адукацыі ў рэалізацыі планаў па русіфікацыі і паланізацыі беларускіх зямель, ацэнкі вынікаў палітыкі русіфікацыі. Не абыходзяць бокам аўтары таксама складаныя пытанні, звязаныя з разглядам гістарыяграфічных падыходаў да вызначэння прававога статусу беларускіх зямель у складзе Расійскай імперыі, іх месца ў палітычных падзеях у канцы XVIII — пачатку XX ст. (ацэнка наступстваў падзелаў Рэчы Паспалітай, вайна 1812 г., паўстанні 1831 і 1863 гг., скасаванне ўніяцкай царквы, рэвалюцыйныя падзеі 1905—1907 гг.).

Нельга не пагадзіцца з высновай, што пэўная ацэнка ролі палітычных падзей канца XVIII — пачатку XX ст. у нацыятворчых працэсах на тэрыторыі беларускіх зямель не атрымала належнага асэнсавання, не падрыхтавана ніводнай грунтоўнай працы, якая б вызначалася глыбокім аналізам крыніц, а не дэманстрацыяй палітычнай пазіцыі даследчыкаў (с. 135).

Аўтары гістарыяграфічнай працы далі добры аналіз яшчэ небагатага вопыту выкарыстання беларускімі гісторыкамі мадэрнізацыйнай парадыгмы ў ацэнцы трансфармацыйных працэсаў, якія адбываліся на тэрыторыі Беларусі ў канцы XVIII — пачатку XX ст., а таксама надалі належную ўвагу значнай гістарыяграфічнай спадчыне даследавання сацыяльна-эканамічных працэсаў. У адзін падраздзел з абазначанымі пытаннямі трапіў грунтоўны разгляд разнастайных ацэнак айчынных і замежных даследчыкаў ролі канфесійнага фактару ў нацыятворчых працэсах, меж і месца этнакультурнага ўзаемадзеяння і шляхоў станаўлення беларускай нацыянальнай культуры.

У асобны, дастаткова значны па аб’ёме раздзел вылучаны разгляд гістарыяграфічных традыцый і дыскусійных пытанняў даследавання станаўлення беларускай нацыянальна-дзяржаўнай ідэі ў канцы XIX — пачатку XX ст. Раздзел падрыхтаваны А. У. Унучакам. У межах раздзела акцэнты былі зроблены на вывучэнні распрацоўкі нацыянальнай інтэлігенцыяй беларускай ідэі, вызначэнні этапаў яе станаўлення, характарыстыцы гістарыяграфічнай спадчыны даследавання «заходнерусізму» і «краёвасці» як накірункаў грамадскай думкі і свядомасці, праблем іх класіфікацыі і суадносін з фарміраваннем беларускай нацыянальнай ідэі, а таксама шляхоў развіцця беларускай нацыянальна-дзяржаўнай ідэі ў перыяд Першай сусветнай вайны і Лютаўскай рэвалюцыі 1917 г. Сярод пералічаных накірункаў вывучэння першасная ўвага нададзена менавіта канцэптуальным пытанням афармлення беларускай нацыянальна-дзяржаўнай ідэі, ролі міждысцыплінарнага падыходу ў яе вывучэнні, праблеме дэфініцый.

У заключэнне хацелася б яшчэ раз падкрэсліць агульнае ўражанне ад прачытанага матэрыялу. Аўтары калектыўнага гістарыяграфічнага даследавання стварылі сціслую і між тым грунтоўную своеасаблівую энцыклапедыю, дзе прадстаўлены розныя канцэптуальныя падыходы, дыскусійныя пытанні разгортвання нацыяльна-палітычных, этнакультурных і сацыяльна-эканамічных працэсаў на тэрыторыі Беларусі ў XIX — пачатку XX ст., якая будзе аднолькава карыснай як знакамітым спецыялістам, так і пачынаючым даследчыкам гісторыі і культуры Беларусі.

**А. Г. Каханоўскі,** загадчык кафедры гісторыі Беларусі новага і навейшага часу БДУ, кандыдат гістарычных навук, дацэнт